© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# БЕЛАРУС

№436 • Ліпень 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

***(сп. Зянон Пазьняк ўзначаліў парад на 5ым авэню)***




Фатаграфіі С. Трыгубовіча

*Выхад калёны з катэдры Сьв. Патрыка*



*Выступленьне З. Пазьняка ў Цэнтральным Парку ў Нью Ёрку 14 ліпеня, сёлета перакладалася ў ангельскую мову др-м Аллай Рамана*

Паважаныя Спадарыні й Спадары!

Сёньня мы пачынаем адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў, урачыстасьць якая адзначаецца Паняволенымі Народамі ды дэмакратычным сьветам ад 1959 году. Нашая грамада рэпрэзэнтуе розныя краіны з розных кантынэнтаў. Нехта з нашае кааліцыі на працягу гадоў адыйшоў, а таксама зьявілася цімала і новых прадстаўнікоў. Памятайма, што несвабода не зьнікае зь Зямлі! Мы-ж, нашая кааліцыя — гэта прадстаўнікі тых, хто змагаецца за свабоду, змагаецца зь несвабодай — пагвалчаньнем свабоды нашых бацькаўшчынаў, пагвалчаньнем, прыцсьненьнем асобы і правоў асобы. Чалавек ня можа быць свабодным у паняволенай краіне. Гісторыя 20-га стагодзьдзя засьведчыла, што найвялікшай сыстэмай пагвалчаньня свабоды і злом чалавецтва зьяўляецца камунізм. Таму кажны сумленны чалавек на Зямлі павінен змагацца з камунізмам, злом чалавецтва, дзе-б і ў якой форме камунізм не праяўляўся.

Я — беларус, прадстаўнік народу, які пацярпеў ад расейскага камунізму. У 1918 годзе рускія бальшавікі акупавалі нашу краіну Беларусь, у той час дзяржаву Беларускую Народную Рэспубліку. Акупацыя Беларусі бальшавікамі прынесла народу нячуваныя пакуты, зьдзекі: толькі за 25 гадоў акупацыі ад 1918-га да 1953 году, бальшавіцкая сыстэма зьнішчыла каля 3-х мільёнаў беларусаў, амаль траціну нацыі.

У 1991 годзе Беларусь вярнула незалежнасьць зьнешнюю, але мы не змаглі здабыць свабоды ўнутранай, бо ўлада на Беларусі заставалася ў руках камуністычнай наменклятуры. У 1994 годзе, маніпулючы несвабоднай сьвядомасьцю несвабоднага народу, расейскае КДБ прывяло да ўлады на Беларусі свайго стаўленіка, былога палітрука КДБ, былога намесьніка начальніка турмы, дырэктара саўгасу А. Лукашэнку. Расейскія спэцслужбы і праімпэрская Масква дапамаглі ўмацаваць аўтарытарны, пракамуністычны рэжым Лукашэнкі на Беларусі, які ліквідаваў нацыянальныя, дзяржаўныя сымбалі краіны, зьнішчыў свабоду слова і інфармацыі. Гэты рэжым манапалізаваў радыё, тэлебачаньне і друк, забараніў свабодныя прафсаюзы, разбурыў беларускую школу і нацыянальную эканоміку, патаптаў Канстытуцыю і Законы, кінуў у турмы бяз суду сотні палітычных вольнадумцаў, дзе адбываецца катаваньне і біцьцё.

Цяперашні рэжым на Беларусі увёў неабмежаваныя паліцэйскія парадкі ды кіраўніцтвам было публічна заяўлена, што прыкладам для кіраўніка зьяўляецца Гітлер ды ягоны парадак, які ўважаецца ўзорам для сёньняшняга рэжыму на Беларусі.

Цяперашні рэжым на чале з прэзыдэнтам вінаваты ў забойстве двух амэрыканскіх грамадзянаў, якія ляцелі на паветраным шары і пагражае тэрорам грамадзянам Беларусі.

А. Лукашэнка крок за крокам здае беларускія нацыянальныя інтарэсы расейскай дзяржаўнай мафіі. Ён сьвядома акружыў сябе агентамі расейскіх спэцслужбаў. Ён шалёна, паталягічна ненавідзіць беларускую нацыю, беларускую мову, культуру, дзяржаўнасьць і дэмакратыю. Гэты стаўленік Масквы падважыў грунт сувэрэнітэту Беларусі. Антыканстытуцыйны пакт зь Ельцынам падпісаны 2-га красавіка сёлета — гэта плян паэтапнай анэксіі Беларусі да Расеі і зьнішчэньня беларускай нацыі. Ніхто не зрабіў гэтулькі зла Беларускай Дзяржаве і Беларускаму Народу, ніхто так па-хамску не зьняважыў беларускую нацыю, як гэты ненармальны, бязродны чалавек.

Камунізм жывы пакуль ёсьць камуністы. Прыклад Беларусі — гэта папярэджаньне народам, якія толькі што вырваліся з былой савецкай імпэрыі. Тое што ня зьнішчанае — можа аджыць.

Мы, беларусы, перажываем цяжкі пэрыяд. Імпэрская Расея з дапамогай рэжыму Лукашэнкі і з маўклівага дазволу Захаду ажыцяўляе захоп Беларусі. Адбываецца ліхая акупацыя. Рускія імпэрыялісты вядуць на Беларусі тую-ж палітыку, што і ў Чачэні, толькі іншымі спосабамі. Аднак, беларусы ўжо ня тыя, як былі раней. На Беларусі ўжо ёсьць сілы, ёсьць людзі, якія будуць бараніць нашую назалежнасьць, дзяржаўнасьць усімі сродкамі. Імпэрскай Расеі цяпер ня ўдасца праглынуць Беларусь.

І тым ня менш, трэба мець на ўвазе, што ў змаганьні за дзяржаўнасьць, за незалежнасьць, за свабоду мы ўсе павінны салідарызавацца. Мы павінны бараніць правы асобы ня толькі ў сваёй краіне і для сваіх грамадзянаў, але ўсюды, дзе яны парушаюцца.

Мы беларускія змагары за свабоду, за незалежнасьць нашай дзяржавы, за дэмакратыю — мы ўдзельнікі Беларускага Народнага Фронту — падтрымваем гераічны народ Чачэніі ў справядлівай барацьбе за свабоду супраць расейскага імпэрыялізму і тэрарыстычнай арміі. Мы падтрымваем змагароў Тыбэту і змагароў за свабоду ў Кітаі, мы падтрымваем свабодалюбівых дзеячоў і людзей Грузіі і Таджыкістану, курдаў, паняволены камунізмам народ Кубы і паняволеныя народы Расейскай Імпэрыі. Мы верым, што раней ці пазьней для ўсіх паняволеных нацыяў прыйдзе дзень свабоды.

Будзьма-ж і надалей працаваць разам, каб Дзень Свабоды надыйшоў хутчэй.

**Зянон Пазьняк**

## БЕЛАРУСЬ СЁНЬНЯ — ПАНЯВОЛЕНАЯ НАЦЫЯ

*Рэспублікай кіруюць варожыя беларускасьці асобы.*

*Пад пагрозай дзяржаўнасьць і разьвіцьцё нацыянальнае школы, культуры, спосаб жыцьця...*

*Наш абавязак інфармаваць сьвет аб чародным наступе імпэрскіх сілаў ды пераатварэньні Беларусі ў каляніяльны, безназоўны прыдатак-край...*

**Вітаўт Кіпель, з інтэрв'ю нямецкаму друку на заканчэньні Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПАЗЬНЯК І НАВУМЧЫК У ВАШЫНГТОНЕ

**8-12-га ліпеня 1996 г.**

Праграма пабыту лідэраў БНФ у Вашынгтоне была арганізаваная «Нацыянальным Фондам у Падтрымку Дэмакратыі».

Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык спаткаліся з кіраўніком палітычнай камісіі Рэспубліканскай партыі, кангрэсмэнам Крыстафарам Коксам, які выказаў упэўнасьць, што ЗША павінны даць большыя гарантыі незалежнасьці Беларусі і развіцьця дэмакратыі. К. Кокс зазначыў, што падзеі на Беларусі выклікаюць неабходнасьць уважлівай паставіцца да працэсаў і ў Расеі. У часе гутаркі з кангрэсмэнам Паллонэ (Нью-Джэрзы – дэмакрат) кіраўнікі БНФ узьдымалі праблему абароны правоў чалавека. Кангрэсмэн Паллонэ запэўніў гасьцей, што гэтая тэма будзе гучэць з трыбуны Кангрэсу ЗША кожны раз, калі і гэтым узьнікне неабходнасьць.

«Народны Фронт першы выступіў з канцэпцыямі нэўтралітэту Беларусі, але цяпер, пасьля актывізацыі працэсу анэксіі краіны Расеяй, мы выказваемся за далучэньне Беларусі да НАТА» — заявіў Зянон Пазьняк у часе спаткньня ў Сэнацкай Камісіі па Замежных Справах.

Тэзіс пра гарантыі незалежнасьці Беларусі быў разьвіты і на сустрэчы з намесьнікам кіраўніка Аддзелу Эўразіі Савету Бясьпечнасьці Карласам Паскуалам. Зянон Пазьняк адзначыў, што ігнараваньне імпэрскіх тэндэнцыяў у палітыцы Крамля можа даволі хутка ускладніць ня толькі становішча краінаў Усходняй Эўропы, але й Захаду.

Адказваючы па пытаньне пра пэрспэктывы дэмакратычнага руху у часе гутаркі у Дзяржаўным Дэпартамэнце ЗША, З. Пазьняк выказаў упэўненасьць, што рэжым Лукашэнкі вычарпаў эканамічныя магчымасьці і паставіў грамадства на мяжу сацыяльнага выбуху. У такой сытуацыі, адзначыў лідар БНФ, вельмі важна накіраваць незадаволенасьць людзей у канструкцыйнае рэчышча. БНФ прапануе шлях палітычнай рэформы, галоўныя этапы якой — распачынаньне Вярхоўным Саветам працэдуры імпічменту прэзыдэнта Лукашэнкі, скасаваньне пасады прэзыдэнта ў Канстытуцыі, выбары новага парлямэнту на шматпартыйнай аснове.

Ад імя Беларускага Гэлсінскага Камітэту ў абарону правоў чалавека Сяргей Навумчык выказаў падзяку Дзяржаўнаму Дэпартамэнту за ўвагу, якая была праяўленая у дачыненьні да палітычных вязьняў і ахвяраў рэжыму Лукашэнкі. Тэме парушэньня правоў чалавека была прысьвечаная сустрэча у Гэльсінскім Камітэце пры Кангрэсе ЗША. Пры гэтым С. Навумчык падкрэсьліў, што БНФ выступае за прыняцьцё Беларусі у Раду Эўропы. «Мы за палітычную ізаляцыю Лукашэнкі як дыктатара, але сусьветная супольнасьць павінна пашырыць кантакты з Парлямэнтам, партыямі і праваабарончымі арганізацыямі, — падкрэсьліў С. Навумчык. — Беларусь павінна набліжацца да сусьветных стандартаў у галіне выкананьня правоў чалавека, і сяброўства ў Радзе Эўропы гэтаму спрыяе. Да таго-ж, пасьля прыняцьця ў Раду Эўропы Расеі, якая вядзе вайну ў Чачні, адмова Беларусі выглядала-б дзіўна і ўзмоцніла імпэркія амбіцыі Крамля.

У гонар гасьцей зь Беларусі быў дадзены абед, на якім прысутнічалі Зьбігнеў Бжэзінскі, дырэктар USIA Joe Duffey, былы дзяржаўны сакратар гэнэрал Alexander Haig, дзеяч прафсаюзаў Lane Kirkland і іншыя.

Зянон Пазьняк выступіў зь лекцыяй «Беларусь: пэрспэктывы дэмакратызацыі» у Бібліятэцы Кангрэсу.

У часе сустрэчаў у Вашынгтоне зь лідарамі БНФ быў сп. Р. Завістовіч, Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту.

---

## ЛІДЭРЫ БНФ ПРОСЯЦЬ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫТУЛКУ Ў ЗША

Як падалі прэсавыя агенцтвы з Вашынгтону 30 ліпеня, Зянон Пазьняк, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», і Сяргей Навумчык, прэс-сакратар БНФ і прадстаўнік Беларускага Гэльсінскага Камітэту за мяжой, зьвярнуліся да ўраду ЗША з просьбай даць ім палітычны прытулак. Аснова просьбы — пагроза іхнай свабодзе і жыцьцю з боку дыктатарскага рэжыму прэзыдэнта Лукашэнкі.

Кангрэсмэн Мартын Гоўк з Кліўленду, у офісе якога сп.сп. Пазьняк і Навумчык правялі прэсканфэрэнцыю, сказаў, што ён будзе заклікаць сваіх калегаў адмовіць Беларусі 13 мільёнаў даляраў, выдзеленыя Агенцыяй Міжнароднага Разьвіцьця на 1997 год. У канцылярыі кангрэсмэна М. Гоўка у складзе беларускае дэлегацыі былі таксама: а. М. Страпко, д-р В. Кіпель, Я. Ханенка, П. Васілеўскі, К. Патапаў, А. Кабяка.

## БЕЛЫ ДОМ ВАШЫНГТОН

Паважаны сп. Завістовіч

Ад імя Прэзыдэнта Клінтана і Віцэ-прэзыдэнта Гора, я хачу падзякаваць Вам за Ваш удзел у ўрачыстасьцях «Сьвяткаваньня Дня Этнічнае Амэрыкі» ў Белым Доме 14-га чэрвеня 1996 году.

Залучаю памятны здымак Вашага спатканьня з Прэзыдэнтам і Віцэ-прэзыдэнтам.

**Мэрылын Дыджыякобі**
**Заступнік Дырэктара**
**Аддзелу Сувязяў**





## 22-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

### ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ

*СЫБОТА 31 ЖНІВЕНЯ, 1996*

| | |
|---|---|
| 7:00 – 11:00 | прыезд делегатаў і гасьцей і разьмяшчэньне ў гатэлях |
| 8:30 – 10:30 | сьнеданьне ў залі Грамадзкага Цэнтру ў «Полацку» |
| 11:30 – 12:00 | адкрыцьцё 22-ой Сустрэчы, падняцьцё сьцягоў перад уваходам у залю |
| 1:00 – 3:00 | нарады арганізацыяў у грамадзкім цэнтры |
| 3:00 – 5:00 | даклады галоўных тэмаў Сустрэчы |
| 5:00 – 6:30 | вячэра |
| 6:30 – 8:00 | вольны час |
| 8:00 – 12:00 | баль Сустрэчы (кухня будзе адкрытая цэлы дзень) |

*НЯДЗЕЛЯ 1 ВЕРАСЬНЯ, 1996*

| | |
|---|---|
| 9:30 | Архірэйская Літургія ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе |
| 1:00 – 3:30 | БАНКЕТ з праграмаю ў залі Грамадзкага Цэнтру |
| 4:00 – 6:00 | КАНЦЭРТ |
| 6:30 – 8:00 | вячэра |
| 8:00 – 12:00 | танцы |

*ПАНЯДЗЕЛАК 2 ВЕРАСЬНЯ, 1996*

| | |
|---|---|
| 7:30 – 9:00 | сьнеданьне |
| 9:00 – 10:30 | канфэрэнцыя й закрыцьцё Сустрэчы |
| 10:30 | ад'езд гасьцей |

**ГАТЭЛЬ — Red Roof Inn**
**Тэлэфануйце – 1-800-843-7663**
**Belarusan Convention — number B060000259**
У пытаньнях Сустрэчы званіць (216) 238-3842,
Fax: (216) 238-9806
***Беларускае селішча «Полацак»***
***11022 Webster Rd., Strongsville, Ohio 441236***

**У справе аўтобуса зь Нью Джэрзі – Нью Ёрку зварагацца:**
**Янка Азарка: 908-545-6654**
**Алесь Міцкевіч: 718-271-0467**


© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ, 1995

*(Працяг; пачатак у № 427)*

Купальле — сапраўды народнае сьвята: усюды па дарозе з Гародні на Ліду праз вакно аўтобуса відны купальскія капцы — даволі высокія, вострыя, пірамідкі сухастою, галінаў, ламачча, гатовыя, калі настане вечар (сёньня 6 ліпеня) успыхнуць полымем супраць купальскае ночы, даць нагоду павесяліцца, пашумець, узбудзіць рамантыку і патаёмныя жаданьні.

У часе прыстанку сярод лясістай мясцовасьці («жанчыны налева, мужчыны направа!») даведваюся ад шофера, менчука Алега Салаўя (14-гадовы сын якога, Максім, падарожнічае з намі — у яго канікулы), што аўтобус наш — вэнгерскай маркі «Ікарус» — мае за сабой 800 тысячаў кілямэтраў. Нічога сабе кавалак дарогі! Завязваецца гутарка пра магчымасьць пабудаваць свой беларускі аўтобус. «Чаму? Пабудавалі ўжо! — кажа Алег. — Экспэрымэнтальныя машыны ўжо ходзяць па Менску. І будуць ня горшыя за іншыя». Але другі шофер, сп. Васіль Сташкевіч, глядзіць больш скептычна на рэчы. Ён думае, што нічога талковага з гутарак пра свой аўтобус ня выйдзе! Каб-жа ён ды памыляўся ў гэтым сваім небесьпадстаўным скептыцызме.

Зьехаўшы крыху ўбок з галоўнае дарогі, наведалі Маламажэйкаўскую царкву-крэпасьць (пачатак XVI стагодзьдзя), што стаіць сіратліва ў суседстве колькіх хатак, паглядзелі на сьляды стагодзьдзяў на ейных сьценах (на жаль, была зачыненая), папстрыкалі фотаапаратамі і падаліся назад да свайго бывалага «Ікаруса».

У Лідзе доўга не затрымваліся. Хоць горад са статысячным жыхарствам. Тут і заводы, і краязнаўчы музэй, плянэтарый, два касьцёлы, старасьвецкі замак. Глядзець ёсьць што — няма часу. Да вечара трэба дабрацца да Наваградка. Там — вячэра, купальскае вогнішча і начлег. Значыцца, сьпешна аглядаем Лідзкі замак і — на калёсы зноў.

Пра Лідзкі замак ёсьць што расказваць, але няма на што глядзець, калі ня лічыць сьценаў. Вялізарная прастора формы няправільнага чатырохкутніка агароджаная высокаю сьценяю і валам. Гэта ці не найбольшы з усіх беларускіх абарончых замкаў. Вялікая частка сьцяны відавочна адноўленая, пра што кажа сьвятлейшы колер цэглы. Сярэдзіна пустая і запушчаная. Пустэча гэтая нагадвае агароджаную сьценамі пустэчу катэджаў, якімі абстаўленыя амаль усе беларускія гарады і мястэчкі.

Па дарозе зь Ліды на Наваградак Анатоль Кляшчук расказвае ў аўтобусе з дапамогай фатаграфіяў і паасобных біяграфіяў пра наш агульны і пра свой асабісты боль — хворых чарнобыльскіх дзяцей. Здымкі Анатолевы зробленыя з сэрцам, майстэрствам і з глыбокім спачуваньнем да маленькіх і маладзенькіх пацыентаў анкалягічных шпіталёў і клінікаў. Анатоль — сапраўдны рухавік справы дапамогі маладым ахвярам чарнобыльскай радыяцыі. Гэта стаецца відавочным, калі пабачыш, зь якой пасьлядоўнасьцяй і самааддаласьцяй ён займаецца напамінаньнем аб чарнобыльскай трагедыі, пра якую шмат каму хочацца забыцца. Прэмія, якую Анатоль атрымаў за свой фатаздымак чарнабыльскага хлопчыка-пацыента, не магла быць прызнаная лепшаму мастаку-фатографу.

Даведваемся ад Анатоля, што ў чэрвені 1995 году зарадзілася ініцыятыва стварыць аб'яднаньне «Фатографы супраць Чарнобыля». Ёсьць ужо ініцыятыўная група зь пяцёх асобаў, але каб зарэгістравацца, трэба мець дванаццаць чалавек. Будзем спадзявацца, што яны знойдуцца.

Цікавы аспэкт чарнобыльскай праблемы закрануў журналіст Яўген Крыцкі, што падарожнічаў з намі. А гэта, як ён сказаў, «чарнобыльскі імідж» Беларусі ў сьвеце. Мне раней таксама падумоўвалася, калі хто-небудзь гаварыў/пісаў пра сельскагаспадарчы патэнцыял Беларусі: мы, бач, можам наладзіць экспарт малака, мяса, бульбы і г.д. Праблемы ў тым, аднак, што чым больш «экспартуецца» чарнобыльская бяда і чарнобыльскія дзеці на чысьцейшае замежнае паветра, тым больш пашыраецца насьцярожанасьць замежнікаў да беларускае сельскагаспадарчае прадукцыі. Каму патрэбая ў харчах радыяцыя? Яўген Крыцкі пераканаены, што куды карысьней для іміджу Беларусі, а заадно і для беларускага турызму, было-б, калі аздараўляць беларускіх дзяцей ад радыяцыі вазілі (і рэкламавалі такую праграму) у здаровыя зоны, якіх шмат у цэнтральнай і паўночнай Беларусі.

Калі пад'яжджаеш пад Наваградак, першае, што ўражвае — гэта вельмі маляўнічы ўзгоркавы краявід, штосьці наводле лагойскага. Утульна тут сярод узгоркаў аднаму з найстарэйшых гарадоў Беларусі, дзе ляжаць пачаткі «літоўскага» пэрыяду беларускай гісторыі.

Сустрэў нас сымпатычны рослы малады чалавек, Алесь Карачан, загадчык аддзелу культуры. Ахвоча дзяліцца інфармацыяй пра свой горад, праблемы, што вынікаюць зь нястачы фінансавых сродкаў. Наведваем мясцовы гісторыка-краязнаўчы музэй, адкрыты толькі ў верасьні 1992 году. Наш гід — Мікалай Гайба, малады навуковы супрацоўнік гэтай установы. Год адкрыцьця музэю тлумачыць здаровую прапорцыю экспанатаў дасавецкага і савецкага пэрыядаў, адсутнасьць вульгарнага пагляду на гісторыю краіны.

Наваградку ёсьць што паказаць са свае мінуўшчыны. На жаль, няма чым пахваліцца зь дзялянкі бягучай культурнай работы: ні хору, ні тэатральнага ці танцавальнага гуртка ў горадзе няма. Расейскае праваслаўе і польскі каталіцызм, якія ўмацаваліся тут, мо-жа больш як дзе на Беларусі, пэўна-ж, аніяк ня спрыяюць разьвіцьцю свае культуры. Гэта цягне за сабой і нізкі стан палітычнай сьведамасьці. Гістарычна Наваградчына заўсёды была краем выдатных, самаахвярных адраджэнцаў, лідэраў і грамадзкіх працаўнікоў. Але русыфікацыя легла цяжкім цяжарам на гэтае гістарычнае места.

Ідучы па вуліцы, пытаюся прыгнобленую гадамі і матар'яльнай мізэрай кабеціну: «Скажэце, а як-жа ваш прэзыдэнт спраўляецца з дапамогай вам тут?» «А ён, бедненькі, так стараецца, так стараецца, — кажа, — але гэная праклятая мафія яму не дае». І што тут будзеш далей гаварыць? Якімі словамі і аргумэнтамі карыстацца? Далёкая і пустая дарога пралегла ад колішняга наваградзкага замчышча да сучаснасьці і ад сучаснасьці да нейкай талковейшай будучыні.

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*

# ДЗЕЦІ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў БОСТАНЕ



23 чэрвеня у Бостан па запрашэньню Ірляндзка-Амэрыканскай арганізацыі Chernobyl Children Project прыляцела група дзяцей зь Беларусі. Амэрыканцы сустрэлі дзяцей ўрачыста зь белымі ды чырвонымі гваздзікамі, а таксама з паветранымі шарыкамі. Кожная сям'я прымала па двое дзяцей. На лётнішчы сьвятар бласлаўі дзетак і людзей, што згадзіліся дапамагчы далёкай ад іх Беларусі. Зь Беларускага боку паездка была арганізаваная добравядомым фондам «Сакавік», які узначальвае Марыя Міцкевіч. Згодна з праграмай 90 дзяцей з забруджаных радыёнуклідамі раёнаў цэлы месяц правядуць у амэрыканскіх сем'ях.

На здымку дзеці чакаюць знаёмства з амэрыканскімі апякунамі.

**Сяргей Трыгубовіч**

# НАТХНЁНЫЯ КАРАТКЕВІЧАМ І «БЕЛАЙ ДАМАЙ»

30 чэрвеня ў кутняй вежы былога францысканскага кляштару ў Гальшанах (цяпер гэтая частка будынку належыць філіялу Нацыянальнага мастацкага музею Рэспублікі Беларусь) адбыўся сход заснавальнікаў новай грамадскай арганізацыі. Яна атрымала назву Фонд "Гальшанскі замак". Былі прыняты статут і вызначаны асноўныя кірункі дзейнасьці.

Фонд «Гальшанскі замак» зьяўляецца падразьдзелам грамадскага навукова-аналітычнага Цэнтру «Беларуская пэрспэктыва» і сярод яго заснавальнікаў сустаршыні Цэнтру Валянцін Голубеў і Уладзімір Анцулевіч, члены Савету заснавальнікаў прафесар Анатоль Грыцкевіч, журналіст і мастацтвазнавец Валянціна Трыгубовіч, дасьледчык беларускай культуры Марыя Міцкевіч. У праўленьне новаствораннага Фонду ўвайшлі як менскія руплівцы беларускай даўніны, так і мясцовыя — дырэктар Гальшанскай сярэдняй школы і стваральнік цудоўнага краязнаўчага музею Эдуард Корзун і загадчыца філіяла Нацыянальнага мастацкага музею Часлава Акулевіч. Старшынёй Фонду "Гальшанскі замак" абраная Натальля Мяцельская, супрацоўніца Акадэміі навук Беларусі.

Сваёй стратэгічнай мэтай Фонд «Гальшанскі замак» мае разьвіцьцё і культурны росквіт рэгіёну, у якога багатая гісторыя, дзе часткова зьберагліся і могуць стаць аб'ектамі турыстычнай зацікаўленасьці архітэктурныя помнікі, дзе жывуць традыцыі міжканфэсійнага і міжнацыянальнага суладдзя ў штодзённым жыцьці, дзе веліч беларускай нацыі мае апірышча не толькі ў пісанай гісторыі, але жыве таксама ў шматлікіх міфах і паданьнях.

Фонд «Гальшанскі замак» адкрыты да супрацоўніцтва зь дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі Беларусі і замежжа. Першае, што прапануюць яго сябры й прыхільнікі: прачытайце (перачытайце) «Чорны замак Альшанскі» незабыўнага Уладзіміра Караткевіча і разам з Натальляй Мяцельскай зрабіце падарожжа па Гальшанах і ваколіцах. Тады працаваць на аднаўленне замка і росквіт Беларусі будзем разам.

Прэс-служба Цэнтра
«Беларуская пэрспэктыва»

Тэл. 226-87-99
268-52-60 Натальля Мяцельская

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



*З жыцьця ў Кліўлендзе*

## ДЗЕНЬ МАЦІ

Дзень Маці, гэта пераважна сямейнае сьвята, але парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд штогоду адзначае й сьвяткуе ўсёй беларускай калёніяй, бо нашыя Маткі былі заўсёды актыўныя й ахвярныя ў рэлігійным і грамадзкім жыцьці нашае калёніі. Сьвяткаваньне адбылося 12 травеня, 1996 г. Пасьля Сьв. Літургіі, настаяцель Міхась Страпко адправіў малебен за Матак а ў канцы прывітаў іх ад парахвіі з Днём Маці, пажадаў усім добрага здароўя й іхнім сем'ям, шчасьлівага й вясёлага жыцьця а ў канцы прасьпявалі ім 'Многае лета'.

За тым адбыўся пачастунак для Матак у царкоўнай залі, дзе мужчыны й дзеці стараліся абслугоўваць Матак. Ўсе мужчыны й дзеці далучыліся да Матак і супольна прадаўжалася гасьцяваньне у вясёлым настроі. На дэзэрт быў спэцыяльны каравай для Матак а таксама ад парахвіі былі ўручаныя вазоны кветак Маткам.

## СЬВЯТА ПАТРОНКІ Ў 45-ЫЯ ЎГОДКІ ПАРАХВІІ

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, Агаё, заўсёды ўрачыста адзначае сьвята Патронкі, але сёлетняе было спалучанае з 45-тымі ўгодкамі заснаваньня парахвіі ў 1951 годзе.

Праграма пачалася ў нядзелю 26 травеня, 1996 г. 10-ай раніцы Архірейскай Літургіяй, якую ачоліў Мітр. Архіяп. Мікалай, Першы Ярарх БАПЦ, настаяцель прат. М. Страпко, мітр. прат. А. Радэнковіч, прат. І. Пуріц. Служба прайшла ўрачыста ў добрым выкананьні напеваў царкоўнага хору. У канцы Мітрапаліт сказаў прыгожую казань, прысьвечаную парахвіі. Ён зазначыў, што пасьля заснаваньня парахвіі, толькі малая частка парахвіянаў адыйшла у іншанацыянальныя цэрквы, а бальшыня засталася й дружна сваёй ахвярнай працай пабудавалі сваю беларускую царкву, здабылі бульшую маемасьць, здабылі свой магільнік і далей трымаюцца разам. Затым быў адпраўлены малебен з працэсіяй навокал царквы.

А 1:30 папаўдні адбыўся банкет у залі Грамадзкага Цэнтру Полацку, які быў багаты й вельмі добра прыгатаваны жанчынамі парахвіі, за што ім належыць вялікая падзяка.

Праграму ўрачыстасьці банкету адкрыў настаяцель прат. Міхась Страпко. Ён прывітаў прысутных: усё духавенства з матушкамі, гасьцей з Дэтройту й суседніх праваслаўных і парахвіяў, усіх прысутных і успомніў агульна пра 45-тыя ўгодкі парахвіі, выменяючы адышоўшых сяброў на вечны супачынак, япіскапаў, дыяканаў, сьвятароў, старшыняў парахвіяльнае рады, старастаў.

**Затым віталі парахвію са сьвятам прысутныя сьвятары БАПЦ і з суседніх цэркваў.**

**Галоўным прамоўцам была старшыня парахвіяльнае рады Оля Дубаневіч-МакДэрмот.** Яна апавядала, як нашыя бацькі й маткі прыехалі зь Эўропы ў Амэрыку й былі бедныя, але працавітыя, дружныя, зьяднаныя ў царкоўным жыцьці беларускае калёніі. Купіўшы пляц у Кліўлендзе, пабудавалі царкву, наладзілі добра царкоўнае й грамадзкае жыцьцё, заарганізавалі сыботнюю школку. Наша парахвія належала да арганізацыі праваслаўных цэркваў гораду Кліўленду. Пазьней здабылі сэкцыю беларускага магільніка на вялікім магільніку Рыверсайд, больш за 200 магілак. А найбольшым дасягненьнем было наладжаньне бінга, што дало вялікую фінансавую дапамогу. У канцы яна выказала вялікую падзяку усім, што спрычыніліся ў заснаваньні беларускай калёніі сваею ахвярнаю працаю. У канцы Оля паведаміла, што цяпер мы маем вялікі праэкт перад намі — пабудова новае царквы на Полацку. Ужо зробленае пагадненьне з гарадзкім урадам Стронгсвільлю і можа пачнём будову ў гэтым годзе.

У канцы праграмы банкету, Мітр. Мікалай прывітаў й паблагаславіў усіх. А прысутныя пасьля малітвы прывіталі Мітрапаліта зь днём нарадзінаў, пажадалі добрага здароўя, доўгага вясёлага жыцьця, посьпехаў у далейшай плённай працы БАПЦ і усе разам адсьпявалі Яму 'Многая лета'.

На заканчэньне адбыліся супольныя танцы пад аркестру Пятра Скепкі з Нью-Джэрсы.

## ДЗЕНЬ БАЦЬКІ

Падобна ДНЮ МАЦІ, парахвіяльная рада ладзіла ДЗЕНЬ БАЦЬКІ, які адбыўся 16 чэрвеня, 1996 г. Пасьля Сьв. Літургіі быў адпраўлены малебен за Бацькоў. Праўда бацькоў менш як матак, бо многія ў маладым веку адышлі на вечны супакой. За тым адбыўся пачастунак у царкоўнай залі, які прыгатавалі жанчыны. Пасьля абслугі бацькоў, усе прысутныя жанчыны й дзеці далучыліся да бацькоў й супольна ў вясёлым настроі правялі добра час аж да вечара.

**К.П.**

## САЮЗ ПАРТЫЯЎ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ

25 ліпеня сем палітычных партыяў Беларусі ад камуністаў да лібэралаў выступілі з супольнай дэклярацыяй супраць прэзыдэнта Лукашэнкі, які ў вострай форме абвінавачваецца ў грубых парушэньнях канстытуцыі і законаў, дэзарганізацыі эканомікі і плянаваньні скліканьня рэфэрэндуму па новай канстытуцыі і праграме, што, паводле дэклярацыі, зацягне краіну ў таталітарны рэжым.

**Сем партыяў зьвярнуліся з заклікам правесьці круглы стол з удзелам прэзыдэнта, прэм'ер-міністра і парляманту дзеля вырашэньня канфлікту паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай.**

## МЕНСКАЯ «ЗАБАВА» З ГУБЭРНАТАРАМ ШТАТУ ІЛІНОЙ



*У часе адзначэньня ў штаце Іліной Тыдня этнічных сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) (27-31 травеня) губэрнатар штату Джым Эдгар с жонкай Брэндай частавалі прадстаўнікоў больш як трыццаці этнічных групаў. Губэрнатар хваліў працаўнікоў этнічных СМІ за самаахвярную працу на карысьць сваіх суродзічаў. Музыку на прыняцьці забясьпечылі здольныя сябры менскага ансамблю «Забава», зь якімі губэрнатар і спадарыня Эдгар (пасярэдзіне) зрабілі супольны здымак.*

## ПРАСТОЛЬНАЕ СЬВЯТА І ДЗЕНЬ МАЦІ Ў РЫЧМАНД ГІЛЛ

У нядзелю 12-га травеня сёлета прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гілл, у штаце Нью-Ёрк, сьвяткаваў Дзень Сьв. Кірылы і Дзень Маці. З гэтай нагоды раніцай маліліся ў царкве. Правілі Літургію: а. ігумен Грэгары (O'Keefe) — наш настаяцель, а. Мячыслаў Брынкевіч — настаяцель царквы Сьв. Еўфрасіні Полацкае у Саўт Рывэры, а. Любен Чунов — з Катэдры Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы (ОСА) у Мангатэне, Нью-Ёрк, і. а. дыякан Міхаіл Эгрэт з нашага прыходу. Служба была урачыстая й прыгожая. Добра сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Сымона Жамойды.

Пасьля службы быў Малебен з нагоды Дня Сьв. Кірылы Тураўскага. Да гэтага дайшло ушанаваньне Дня Маці. «Многае Лета» закончыла малебен. Перад цалаваньнем крыжа а. Мячыслаў коратка прамовіў да нашых прыхажан і вернікаў з нагоды сьвята.

У царкоўнай залі быў зладжаны супольны абед. Сп. К. Мярляк, старшыня Царкоўнай Рады, прывітаў прысутных айцоў, гасьцей і прыяцеляў. З Днём Маці ён вітаў нашых прысутных матак ды ўсіх матак на Беларусі, і асабліва тых, што пацярпелі і цярпяць пасьля Чарнобыльскай катастрофы.

Стравы на абед прыгатавалі нашыя жанчыны, за што ім належыць вялікі дзякуй.

Закончылі сьвяткаваньне малітвай «Дастойна Ёсьць».

**Васіль Шчэцька**

## АХОВУ ПРЭЗЫДЭНТА ПАКРЫЎДЗІЛІ...

10-га чэрвеня «Белорусская Деловая газета», рэдакцыя якое зна ходзіцца ў Менску, атрымала папярэджаньні з Дзяржаўнага Камітэту на справах друку. Камітэт указаў рэдакцыі на два дапушчаныя парушэньні выдавецкіх правілаў й паведаміў пра магчымасьць ужываньня супраць газэта санкцыяў — затрымаьне распаўсюджваньня й пазбаўленьне праз суд выдавецкае ліцэнзыі.

Калі першае парушэньне выглядае на яўную зачэпку, каб адно «дацягнуць» да колькасьці 2, дык другое, відавочна, й ёсьць першапрычынай. Выданьне абвінавацілі ў «раскрыцьці дзяржаўнае таямніцы» ў выдрукаваным артыкуле пра асабістую ахову Лукашэнкі і дзейнасьць беларускіх спэцслужбаў. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, шэф прэзыдэнцкай аховы Ю. Бародзіч асабіста прасіў А. Лукашэнку «заняцца газэтай». Асабліва абурыў прэзыдэнта й ягонага «галоўнага ахоўніка» передрук у газэтным артыкуле партрэтаў некаторых ахоўнікаў ды расшыфроўка іхных прозьвішчаў.

Некаторыя санкцыі супраць газэты ўжытыя яшчэ раней — Беларускі Дом друку адмовіў рэдакцыі ў друку, праз пэўны час тое-ж самае зрабіла гомельская друкарня, пошта адмовілася распаўсюджваць выданьне, выдаўцы атрымлівалі розьнага кшталту пагрозы. Падобна іншым незалежным газэтам, «Белорусская деловая газета» друкуецца ў Летуве.

## ДАЗВОЛ НА ВАЛЮТНЫЯ КРЭДЫТЫ

25 красавіка Нацыянальны Банк Беларусі адмяніў уласнае рашэньне пра забарону крэдытаў у замежнай валюце. Беларускім прадпрыемствам цяпер дазваляецца карыстацца крэдытамі ў замежнай валюце толькі для закупаў тавараў, неабходных для ўнутранога спажываньня. Прадстаўнік Нацбанку паведаміў, што колішняя забарона мела на мэце прадухіліць імпарт алкаголю й прадуктаў харчаваньня замежнае вытворчасьці, аднак яна ўнемажлівіла для беларускіх таваравытворцаў імпартаваць патрэбныя працоўным калектывам спажывецкія тавары й рабіць інвэстыцыі.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*



*Мікола Панькоў*

М. Вольны, Ул. Сакол, М. Крэнь, М. Лістападавец, Часапісец, Летапісец, Ня-Кніжнік, Не-Паэта — не пералічыць усіх псэўдонімаў Міколы Панькова, як і не пералічыць усяго, зробленага ім на эміграцыі: пісьменьнік, выдавец, грамадскі дзеяч, журналісты, архівіст, бібліёграф.

Так сталася, што найбольш вядома хіба што ягоная праца «Паказьнік беларускіх выданьняў на эміграцыі». Дарэчы, праца над улікам беларускіх эміграцыйных выданьняў была распачата яшчэ пад старшынствам дырэктара Дзьвінскай Беларускай Дзяржаўнай Гімназіі, дзе ў 1927 г. быў закладзены гурток аматараў беларускага друкаванага слова. З часам засталося толькі трое: Вэраніка Слосман, Янка Зэйгліш і Мікола Панькоў. Рабіліся каталёгі, рэгістраваліся выданьні Заходняй Беларусі. Ад 1929 г. працаваць застаўся толькі М. Панькоў пад кіраўніцтвам і з дапамогай С. Сахарава і К. Езавітава. Каталёгі вяліся ажно да пачатку савецкай акупацыі. У 1941 г. праца аднавілася і ня скончвалася ажно да 1995 г.

А колькі часу і сілаў было аддадзена выданьню часапісаў, у большасьці сваёй рукапісных: «Абежнік Беларускага Дапамаговага/Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне Брытанскае зоны», «Абежнік Саюзу Беларускіх Журналістых», «Баявая Ускалось», «Беларусь на чужыне», «Вольнае слова. Бюлетэнь Саюзу Беларускіх Журналістых», «Выгнанец. Беларускі рукапісны тыднёвік», «Дакуманты і факты. Архіў Беларускага Нацыянальнага Вызвольнага руху», «Кагарка. Месячнік крывіцкай думкі», «Кнігапіс Беларускага друку на чужыне», «Летапіс Жыцьця Беларускай Эміграцыі», «Мэта. Часапіс літаратуры-навукі-грамадзкасьці», «Нарач. Літаратурна-грамадзкі-крывіцкі часапіс», «Этапы». Каб уявіць шырыню працы, дастаткова адзначыць складзены і выдрукаваны на машыніцы ў 1-2 асобніках — яшчэ ў лягерох ДП! — ёмісты «Слоўнік замежных словаў беларускай мовы» пад рэдакцыяй А. Адамовіча.

Большасьць ягоных працаў засталася ў рукапісах, як і накіды слоўнічка беларускай мовы.

Слоўніка аўтарскага, сваесаблівага, дзе побач з літаратурнымі словамі беларускай мовы суседнічалі «вынаходы», як назваў іх М. Панькоў, і прымаўкі. Падамо некаторыя зь іх: Паміж бабскім — так і не — не прапіхнеш іголкі; Не злутаўшы лык, не пляці лапці; Кажны разумны: хто сьпярша, хто апасьля; Кус жанадны, ды кій аднадны; Адведаў воўк коніка ад хваста; Толькі памры, адпявалы знойдуцца; Ня суйся ў паны, лёкаем будзеш; Спаверху гладка, а ў сярэдзіне гадка; Разумнай пыхі ня бывае; Дурань павым пяром пышацца; Чаго трухлець: долі ня мінеш, толькі надрыжэсься; Помніць сьвёкра сваю маладосьць, ды й нявестцы ня верыць; Здарылася сьвіньні ў неба глядзець; Кажнаму свой кон і закон; Другі пахваліць горш чым аблаіць; Усяго ў ахапку не забярэш; Конь масточак перабег, спатыкнуўшыся на дарожцы; На адных вачах важ, а на другіх пераважай; Ня кажнаму старцу ігуменам быць.

А да слова «славіліся» пададзены такія прыклады: «Славіліся паясы слуцкія, шкло урэцкае, сукно зельнскае, паліва ільлецкае, дзяўчаты з-пад Глуска, мурнікі вялiскія, купцы полацкія, стральцы налібоцкія, абаранкі смаргонскія. Задунайская славяншчына атурэчылася, палабская анямечылася, маскоўская ататарылася, крывічанская абязправілася».

# АРХІЎ МІКОЛЫ ПАНЬКОВА

Мінула ўжо больш году, як Мікола Панькоў адыйшоў у вечнасьць (7.1.1995). Па сабе ён пакінуў даволі значны збор таго; што выдавалася беларускай эміграцыяй пасьля 2-й сусьветнай вайны: бальшыня рататарных выданьняў рознага зьместу, газэтаў, кніжак і шмат чаго больш. Да гэтага даходзіць карэспандэнцыя, дакуманты і г.д. Усё гэта называецца «Архіў Міколы Панькова».

Калі М. Панкоў памёр, паўстала пытаньне куды перадаць зборы М. Панькова? Меркавалася перадаць на Беларусь, але рэфэрэндум Лукашэнкі (14.5.1995) паказаў, што гэтага кроку рабіць ня можна. Тады Ніна Тэсла (дачка М. Панькова) і прыяцелі Нябожчыка Васіль Шчэцька і Канстанцін Мярляк пастанавілі перадаць архіў і бібліятэку ў Фундацыю П. Крэчэўскага, што ў Квінсе. Кіраўніцтва Фундацыі прыняло прапанову і матэрыялы былі перавезеныя ў іх памешканьне 9.12.1995 г.

Хочацца спадзявацца, што калекцыі Міколы Панькова упарадкуюцца, што дасьць магчымасьць дасьледчыкам гэтыя матэрыялы вывучаць і выкарыстоўваць для гісторыі беларускай эміграцыі.

**Васіль Шчэцька**

# ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛЯКАРТЫІ НА ЭМІГРАЦЫІ

Наўрад ці можна вызначыць дакладна, калі была выраблена першая беларуская паштоўка на эміграцыі. Можа, гэта паштоўка «Хрыстос Уваскрос», выдадзеная, праўдападобна, на Беларусі беларускімі паўстанцамі (з адмысловым надпісам, зробленым лацінкай: Прывітаньне беларускіх паўстанцаў) і адзін экзэмпляр якой трапіў у Італію. Там яна была зьмешчана ў газэце "L'ora dell Alione" у 44 нумары за 1949 г. з такім тлумачэньнем: «Выданая паштоўка распаўсюджваецца ў савецкай арміі, будзячы да змаганьня супраць савецкай атэістычнай улады ў імя рэлігіі і традыцыі».

Найбольш вядомыя, напэўна, дзьве паштоўкі з выявай Ф. Скарыны, выдадзеныя Аб'яднаньнем Беларускіх Лекароў на Чужыне ў 1953 г. і Янам Пятроўскім. Ці паштоўка Фонду зборніка М. Равенскага «Вясна красна на ўвесь сьвет». Менш вядомы сэрыйныя паштоўкі. Адна зь іх была распачата яшчэ ў лягеры Ватэнштэт у 1946 г. і называлася «Краявіды Беларусі». («Ваколіцы Наваградчыны», «На Прыпяці», «Зіма на Беларусі», «Сяўба», «Перад вячэрай», «На вёсцы», «Пастушок з дудкай»). Была сэрыя паштовак заплянаваная й часткава выдрукаваная ў Бэрліне ў часе вайны.

Іншая сэрыя была выдадзена Жыровіцкім Праваслаўным Брацтвам на чужыне ў Нямеччынне ў 1948 г. коштам А. Асіповіча-Асіпчыка. Гэта такія паштоўкі: «Жыровіцкі Сьв. Успенскі манастыр», «Аднеўлены абраз Жыровіцкае Божае Маці Апякункі Беларускага Народу», «Царква Сьв. Ауфрасіньні кн. Полацкай» (царква ў Рэгенсбургу, пабудаваная ў 1946 г.), «Беларуская Праваслаўная царква» (вонкавы выгляд царквы ў лягеры Windischbergerdorf ў Баварыі), «Легенда аб Цудатворным Абразе Божае Маці ў Жыровічах пад Слонімам». Да кожнай паштоўкі на адваротным баку даваліся тлумачэньні, гістарычныя зьвесткі, эмігранцкая малітва да Жыровіцкае Божае Маці.

Асобна трэба назваць паштоўкі, выдаваныя да гадавінаў 25 Сакавіка: гэта і адна зь першых, выдадзеная беларускімі скаўтамі ў 1948 г., і паштоўкі з малюнкамі мастака Мірановіча выданьня Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе (на адной подпіс «Штандар наш бел-чырвона-белы пакрыў сабой народны рух», а другой словы з прысягі беларускіх партызанаў: «Уздымем яго высока, або ён пакрые нас!»).

У лягеры Гэрэнберг у 1947 годзе Мікола Сільвановіч да ўгодкаў 25 Сакавіка выдаў паштоўкі «Вялікія Дзеячы Беларускага Адраджэньня» з выявай Пагоні і парсунамі Кастуся Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага, Францішка Багушэвіча, Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі. Пра гісторыю стварэньня паштоўкі Мікола Сільвановіч піша: «Два тыдні таму назад, 2 сакавіка 1947 г., паўстала думка выдаць на 25 Сакавіка паштоўку нацыянальнага зьместу, і я прыступіў да працы. Праца была нялёгкая, у нас няма Кругловічаў, якія




маглі-б выканаць заказ, і мне прыйшлося шукаць немца-мастака, зь якім я працаваў і які згадзіўся намаляваць абраз, але з тым, каб я даў яму кампазыцыю, ну і рэчы ці асобы якія, якіх я хачу намаляваць. Так і сталася. Я кампанізаваў (хай даруюць усе, калі дрэнна) з малюнкаў волатаў нашага народу, якія ў мяне знаходзіліся. 1 сёньня ўжо абраз гатовы. Я ўжо яго перафатаграфаваў на цынк, думаю падаць у друкарню і выдаць да 25-га 1000 паштовак (ня ў колерах) па аднэй марцы ў продаж. А калі крытыкі пахваляць і разойдуцца паштоўкі, то тагды выдам на камені літаграфічным спосабам у колерах. Падбор асоб, здаецца, добры: паўстанец — дыктатар Беларусі Кастусь Каліноўскі як закладчык ідэялегіі незалежнасьці нашае Дзяржавы. Нарадаволец Ігнат Грынявіцкі як ягоны пасьлядоўца. Францішак Багушэвіч як сьведка тэй эпохі і супрацоўнік іх абодвух і Бацька Беларускай Адраджэнскай літаратуры. Пётра Крэчэўскі як Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі, цьвёрды незалежнік і дыпламат. Васіль Захарка як другі Прэзыдэнт БНР, спадкаемца Каліноўскага, Грынявіцкага, Багушэвіча, іхні вучань, памёршы ў выгнаньні. Дзяржаўны герб Беларусі — Пагоня, на якім коньнік імчыцца ў роўным размаху, прадстаўляець поўны размах і сілу паднятых імі ідэй у нашым сёньняшнім эміграцыйным асяродзьдзі. Вось уся тая сымболіка, на каторай апёрта і выдадзена на Сакавік паштоўка».

**Л.Ю.**

# ПРЫСУД АНДРЭЮ РАМАШЭЎСКАМУ

Лідэр Беларускай партыі аматраў піва Андрэй Рамашэўскі, які ад 29 красавіка знаходзіўся пад арыштам у абвінавачаньні у спаленьні лукашэнскаўскага сьцягу больш чым год таму, быў прысуджаны да двох год зьняволеньня ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на адзін год.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# ЦІ РАСТУЦЬ У БЕЛАРУСІ НОВЫЯ МАРАТЫ КАЗЕІ?

## ЯКАЯ МОЛАДЗЬ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ

### ПРАДМОВА

*Беларускі нацыянальны рух, як прадэманстравалі падзеі апошняга стагодзьдзя, пачынаўся з моладзі, і перарываўся толькі тады, калі гэта моладзь не магла перадаць набыткі нацыянальнага выхаваньня і культуры сваім дзецям. Першае, што заўсёды стараўся вынішчыць камуністычны рэжым і што рэанімуе лукашэнкаўскі рэжым — натуральную пераемнасьць культуры і нацыянальнай ідэі, — гэта расейская школа, расейская царква, расейскія каштоўнасьці і г.д. Кожнае новае маладое пакаленьне беларусаў мусіць нанова шукаць сваю Беларусь і фармуляваць сваё нацыянальнае Я. Але нацыянальнае адраджэньне 80-90 гадоў носіць ужо ня проста нацыянальны, але выразны дзяржаўны характар. Пяць гадоў дзяржаўнасьці выгадавалі тое, што не маглі зрабіць нацыянальныя рухі — грамадзяніна Беларусі. Гэта ці не найбольшы здабытак новага часу. Веснавыя дэманстрацыі ў Менску падтрымала пераважна студэнцкая і вучнёўская моладзь, якая дагэтуль ні ў якія рухі не была заангажаваная, але хоча быць грамадзянамі Беларусі, а не ССР ці яшчэ чаго. Выразна выяўляецца і яшчэ адна катэгорыя моладзі, арганізаваная ў правыя нацыянальна-патрыятычные арганізацыі. Менавіта ўзаемаадносінам гэтага новага маладзёжнага руху са сталым нацыянальным рухам, прадстаўленым Беларускім народным фронтам, месцы і пэрспэктыве моладзі ў нацыянальна-дзяржаўным змаганьні прысьвечаны артыкул Віталя Цыганкова, які мы перадрукоўваем са скаротамі з газэты «Свабода» № 28 ад 17 красавіка 1996.*

Выказваньне «Моладзь супраць Лукашэнкі», што апошнім часам вымаўляецца амаль як аксіёма, мяркую, патрабуе пэўнага тлумачэньня і аналізу. Гэтае сьцвярджэньне адпавядае рэчаіснасьці тады, калі мы цьвёрда і спакойна вызначымся ў пытаньні: «Якая моладзь?»

Як і ўсё наша грамадзтва, беларуская моладзь сацыяльна і ідэалагічна неаднародная, яе нельга ўяўляць нейкай агульнай роўнай масай. Стаўленьне да Лукашэнкі кардынальна адрозніваецца сярод моладзі студэнцкай і рабочай, сталічнай і правінцыйнай, гарадзкой і вясковай. Сацыялягічныя дасьледваньні, дый проста жыцьцёвыя назіраньні, адназначна дэманструюць наступную тэндэнцыю: чым вышэйшы адукацыйны і матэрыяльны ўзровень чалавека, тым менш ён падтрымлівае Лукашэнку.

Зь вялікай доляй верагоднасьці можна сьцвярджаць, што ў антылукашэнкаўскіх мітынгах прымалі ўдзел пераважна студэнты. Цяпер у студэнцкім асяродзьдзі выстаўляцца прыхільнікам Лукашэнкі — гэта нонсэнс, гэта адсутнасьць густу. Лукашэнку з яго «трасянкай» не ўспрымаюць нават тыя, хто падтрымлівае некаторыя крокі ў палітыцы прэзыдэнта. Моўна-культуралагічная раздзяленьне ўласьціва не толькі старэйшаму пакаленьню, але і 20-30-гадовым. Многія маладыя прыхільнікі дэмакратыі і беларускай незалежнасьці даволі індыфірэнтныя да праблемаў нацыянальнай мовы і культуры. Гэтага нельга ня ўлічваць.

На сваёй прэс-канферэнцыі пасьля мітынгаў Лукашэнка сьцярджаў, што моладзь не ведала, супраць чаго яна так актыўна выступіла. Мауляў, беларуска-расійскіх пагадненьняў ніхто яшчэ не бачыў. Калі прэзыдэнт такі нездагадлівы, можам ему дапамагчы: моладзь выступала найперш супраць яго, Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча, супраць яго палітыкі, ідэалогіі, яго «рынкавага сацыялізму», фактычна, супраць усяго, што ён робіць.

Усёй сваёй фразеалёгіяй, двухгадовай палітыкай Лукашэнка супрацьпастаўляў, вобразна кажучы, лепшых і горшых: адукаваных і неадукаваных, культурных і малакультурных, багатых і бедных і гэтак далей. «Горшых» і слабых у нас аказалася большасьць, і яны выбралі прэзыдэнтам таго, хто таксама ня любіць разумных і багатых. Аднак моладзі заўсёды больш за старэйшае пакаленьне ўласьцівы сацыяльны аптымізм, вера ў свае сілы, жаданьне зьмяніць сытуацыю да лепшага. Рыторыка беларускага прэзыдэнта выпестоўвае іншыя якасьці: хваравітую настальгію, злосьць, зайздрасьць. Тая моладзь, якая глядзіць у будучыню, а не ў «сьветлае мінулае», якая хоча сама адказваць за сваё жыцьцё, якая ўжо бачыла Захад і не разумее, чаму яго трэба баяцца, не магла не апынуцца ў апазыцыі да цяперашняй «саўковай» улады. Адказваючы на пытанне падзагалоўка «Якая моладзь супраць Лукашэнкі?», можна адназначна сказаць: самая лепшая — моцная, здольная і адукаваная.

# НОВЫЯ КНІГІ Я. ЮХНАЎЦА

Некалі, напрыканцы 80-х, набожчык Б. Сачанка напісаў, што беларуская эміграцыя памірае. Адыходзяць, маўляў, старэйшыя, кладуць асадкі пісьменьнікі. Недарэчнасьць выказваньня відавочная, што і сьцьвярджаецца новымі кнігамі Янкі Юхнаўца.

Зборнік вершаў «Дань майго часу» Янкі Юхнаўца — апошняя кніга Беларускага Архіву ў ЗША. Як зазначае ў невялікай прадмове аўтар, «Калі друкаваліся «Творы» (1987-1990 гг.) шмат печатных, ранейшых твораў не ўключана, бо майму меркаваньню ўверылася: яны не ў адведзе тэматыцы і зьместу ў тры-кніжным зборніку. Мікола Панькоў — журналісты, бібліёграф і ўласьнік Беларускага Архіву ў ЗША, дзе шмат мае ранейшыя творы знаходзіліся, каб надалей не захоўваліся ў архіве, параіў іх выдаць асобна. Я вельмі ўдзячны яму». Мікола Панькоў адышоў мінулым годам, і кніга вершаў «Дань майго часу» успрымаецца сёньня і як даніна памяці гэтаму беларускаму дзеячу, пісьменьніку, выдаўцу, бібліёграфу, кніжніку.

А сёлета знаным паэтам выдрукавана новая кніга — «Запіскі і зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 г.», Нью-Ёрк, 1996. На 200 старонках Янка Юхнавец развавжае пра Беларусь і яе мiталёгію, пра творчасьць Самуйлёнка і П. Труса, Караткевіча і Арлова, Сартра і Ніцшэ. Зацемкі жыцьця на эміграцыі — пагляд збоку і знутры. Сьмешнае і сумнае. У кнігу патрапілі таксама некаторыя новыя й старыя, але невядомыя чытачам, творы. Абсяг зацікаўленьняў паэта — па-эўрапэйску шырокі і дазваляе зазірнуць у майстэрню творцы, разам з аўтарам разважаць: які я, беларус, у навакольным сьвеце.

Пры чытаньні новых кніг не-не ды й мільгане думка: ужо з'яўленьнем такіх паэтаў як Янка Юхнавец нашая літаратура на эміграцыі узбагаціла сваё існаваньне.

Зараз Янка Юхнавец рыхтуе да выданьня новую кнігу — гэтым разам драматычных начыркаў, паводле аўтарскага вызначэньня. У кнігу ўвойдуць пераважна невядомыя творы — «Успаміны», «Адам і Ева», «Урачыстасьць у садзе», «Мітусьня».

Ніжэй зьмяшчаем верш з кнігі «Дань майго часу». **Л.Ю.**

## Расея ты, Расея

### (запіс у дзёньнік)

— Расея ты, Расея — глумная, незразумелая, —
самімі расеянамі, сьпяваецца і распіваецца.
... вольніца дапаўнялася па заказу.
«Нацменшасьці» (па іхнаму) душыліся
братабойнамі змаганьнямі.
Расея зборныя прычыны мела.
Хмялілася ля вогнішчаў паходных.
... вольніцы пашана ёсьць!
Межы захопніцкія паміж імі расьцілала
хвалебствам свае мовы і ўлады.
Перамога не ганьбілася перад Богам:
папы малітвамі скраплялі
ў сьвятынях праваслаўных.
... а пазьней — мы моц дзяржаўная:
— Ачысьцім мову рускую ад славянізмаў.
Цішкам словы лепшыя скрадзем
для нашай мовы ад славянаў.
... а пасьля: «Аўген Анегін» смутна паведамляе
— Ці я паду стралой пранізаны?
Спадзяючыся атрымаць лісты любоўныя,
па-француску пісаныя,
а словамі-сынамі зтоіўшчаныя па-расейску.
... а пазьней — Расея заблудзілася.
«Кто віноват?»
«Былое і Думкі» — перапляталіся — «Что делать?».
... а пазьней — захлятнае Ясененскае:
скачуся з пралетарыямі, сялянамі пажыць.
(ёсьць гэтаму апраўданьне. Усіх не пералічыш..
Люстэрка рэвалюцыі падвесілі ўсюды.
Яно было патрэбнае).
... разсечана Расея ад самага пачатку.
Але ашчэрылася — рукі нашы не адсячы!
.............................................................................
Беларусь! Ты Сфінкс сама сабе!
Далявы краскамі Айчыннамі
прыгожацца каля яго,
бо злосьць сваю панад сабой збываеш.
Беларусь! Сусьветнае бяздумя сьцеражэш.
... няўжо загоны ў чужацкіх кельлях манастыроў
табе мілей?

**Янка Юхнавец**

# ДА ВЕДАМА ЛУКАШЭНКІ: ЗАЯВА ДЗЯРЖДЭПАРТАМАНТУ

Прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША Ніколяс Бэрнс у заяве 18 чэрвеня нагадаў кіраўніцтву Беларусі, што Беларусь дабраахвотна забавязалася падтрымліваць міжнародныя пагадненьні, якія гарантуюць свабоду друку, слова і сходаў. Заява зробленая ў сувязі з тым, што беларускія ўлады забаранілі 7 чэрвеня выхад незалежнай «Белорусской деловой газеты» і ў сувязі з заплянаванымі на 22 чэрвеня (55-я ўгодкі нападу Гітлера на СССР) масавыя публічныя мерапрыемствы. «Напярэдадні адзначэньня па цэлай Беларусі гэтай памятнай даты, — сказана ў заяве Дзяржэпартаманту, — мы заклікаем усіх удзельнікаў адзначэньня быць адказнымі ў шанаваньні права на свабоднае выяўленьне і праводжаньне сходаў».

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Высокадастойнага Айца

## АЛЯКСАНДРА НАДСОНА

Апостальскага Візытатара для Беларусаў, Дырэктара Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане, Англіі, Старшыню Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі, перакладчыка на беларускую мову й выдаўца літургічных тэкстаў Сьвятога Пісьма, вітаем з 70-мі ўгодкамі жыцьця, 38-мі ўгодкамі сьвятарства, 45-мі ўгодкамі грамадзкай й культурнай дзейнасьці, жадаем добрага здароў'я, далейшых багатых плёнаў у пастырскай, літаратурнай ды грамадзкай дзейнасьці.

Сто год шчасьлівага жыцьця!

**Кіраўніцтва й сябры Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады**

Высокашаноўнага

## Др. ЯНА ЗАПРУДНІКА

даўгагадовага рэдактара газэты «Беларус», рухавіка дзесятка-другога беларускіх маладзежных, студэнцкіх, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, сябру Рады БНР, упраў БІНІМу і БАЗА, беларускага прадстаўніка на сотнях канфэрэнцыяў, сымпозыюмаў, мітынгаў, аўтара колькіх кніжак і безьліч артыкулаў пра Беларусь у розных мовах, мэцаната й памагатага выдавецкай і культурніцкай працы на Бацькаўшчыне

***вітаюць з 70-і ўгодкамі жыцьця***

**Прэзыдыюм Рады БНР**
**Управы БАЗА, БІНІМу,**
**беларусы Амэрыкі,**
**усе сябры й знаёмыя**

### ГРЫГОРАВІЧ –«ПАБЯДЗІЦЕЛЬ»

Лягчэй падлічыць валасы на галаве беларускага прэзыдэнта, чым выканаць ягонае чарговае распараджэньне па ўліку карыстальнікаў сеткай *Internet*. Усе, хто маюць выхад на гэтую міжнародную кампутарную камунікацыйную сыстэму, кожны, хто мае адрас электронай пошты ў дзяржаўнай ці нядзяржаўнай сетцы мусяць зарэгістравацца ў сваім раённым аддзеле міліцыі.

Паводле афіцыйнай вэрсыі, **гэта ёсьць мера барацьбы з антыдзяржаўнай інфармацыяй і спыненьнем антынародных правакацыяў**.

Тэрмін рэгістрацыі вызначаны ў 30 дзён. Парушальнікаў чакаюць сур'ёзныя кары, зрэшты, распараджэньне не ўдакладняе якія менавіта. На думку кіраўнікоў адміністрацыі, новае распараджэньне будзе спрыяць **«здароваму разьвіцьцю інфармацыйнай індустрыі краіны»**.

Прыгадваю, як дзесяць гадоў таму я упяршыню пабачыла ў Менску ксэракапіравальны апарат. Працавала я тады ў канцылярыі Інстытуту торфу. І вось калі дырэктару патрэбныя былі копіі нейкіх дакумэнтаў, мяне, у суправаджэньні сымпатычнай жанчыны начальніцы канцылярыі, адсылалі за каваныя железам дзьверы з мноствам замкоў і кодаў. Перш, чым рабіць копіі, работніца ў шэрым халаце забірала цыдулку-рэзалюцыю ад дырэктара, відаць, для справаздачы ў першым аддзеле (аддзел КДБ у кожнай установе), тады кідала вокам на дакумэнт і запускала свой сакрэтны агрэгат. Менавіта агрэгат, бо нагадваў ён хутчэй рэнтгенаўскую «косьцедрабілку» і займаў цэлы пакой ад зямлі да столі, скрыгатаў, бліскаў і сыпаў нейкім чорным парашком. Апэрацыя капіраваньня адной старонкі займала з дваццаць хвілін, а здабыцьцё папярэдняга дазволу для прафана — усё жыцьцё. Такая была вартасьць друкаванага слова. Рабілася гэта, вядома, дзеля «здаровага разьвіцьця інфармацыйнай індустрыі краіны».

Ды перабудова «ня спала ў шапку». Скарыназнаўства падказвала шлях і натхняла беларусаў да самастойных друкарскіх практыкаваньняў. Спосаб быў вынайдзены і больш-менш даступны — партатыўныя друкавальныя машынкі. Але-ж гэта, зразумела, не спрыяла «здароваму разьвіцьцю інфармацыйнай індустрыі краіны», таму і зьявілася распараджэньне пра рэгістрацыю ўсіх друкарак і шрыфтоў.

Хто-б гэта мог падумаць, што працэсы «антыдзяржаўнай інфармацыі» зойдуць так далёка і застануцца безкантрольнымі ах на пяць гадоў! Найлепшы спосаб змаганьня з «антыдзяржаўнай інфармацыяй» і «антынароднай правакацыяй» — іх адмяніць, і ўстанавіць дзяржаўную інфармацыю і народную правакацыю. Гэта і гучыць прывычна і замежжа не хвалюецца, бо ня ведае з якой прычыны хвалявацца: поштай благія весткі не даходзяць, факсамі не праходзяць і тэлефонамі абрываюцца, газэтамі не дазваляюцца. Сьвяты супакой. Заводы, дзякуй Богу, усе «запушчаныя», больш ніякай заразнай тэхналёгіі. Хіба, кампютары...

От-жа ж няўклюды прэзыдэнтавы радцы, і тут забыліся! А сакрэтны код (password) і ключ ад кватэры, дзе...

**А.С.**

### ЛУКАШЭНКА ХОЧА ЗЬМЯНІЦЬ КАНСТЫТУЦЫЮ І КРЫТЫКУЕ РАСЕЮ

22 ліпеня Лукашэнка заявіў, што ён прадставіць новую эканамічную праграму і новую канстытуцыю на разгляд парламанту ў верасьні сёлета. Лукашэнка заявіў гэтаксама, што не спадзяецца на ўхвалу прадстаўленых дакумэнтаў парламантам, таму прынамсі згаданых дакумэнтаў можа быць вынесена на рэфэрэндум. Варыянт канстытуцыі Лукашэнкі прадугледжвае падзелены на дзьве палаты парламант і «рэальны падзел уладаў». Намесьнік старшыні парламанту Генадзь Карпенка назваў падобны намер «антыканстытуцыйным пераваротам» і прапанаваў увесьці пяцігадовы мараторый на канстытуцыйныя зьмены.

Гэтаксама Лукашэнка выступіў з крытыкай Расеі за ейнае нежаданьне ануляваць доўг Беларусі за паліва ў памеры 600 мільёнаў дал. Паводле словаў Лукашэнкі, Расея пасьля падпісаньня мытнага саюзу з Беларусяй «паводзіць сябе непрыстойна».

### СП. В. ВЯЧОРКА Ў ПАРЫЖЫ

12-га чэрвеня ў Парыжы, у Люксэмбурскім палацы (Сэнат), у салі Монэрвіль адбыліся дэбаты на тэму «Вяртаньне камуністаў: першы балянс», дзе выступілі Vitautas Landsbergis, сэнатар, шэф апазыцыі ў Летуве; Zbigniew Romaszewski, незалежны сэнатар, Польшча; Вінцук Вячорка, заступнік старшыні Беларускага Народнага Фронту. Удзельнікі дэбатаў мелі на мэце прадыскутаваць, колькі дзён перад прэзыдэнцкімі выбарамі ў Расеі, палітычную сытуацыю ў памежных з Расеяй краінах, а таксама геапалітычныя наступствы расейска-беларускіх пагадненьняў аб інтэграцыі. У дэбатах прынялі ўдзел выдатныя прадстаўнікі францускай грамадзкасьці. Мерапрыемства было арганізаванае **Парыскім Клюбам ад іншадумства да дэмакрацыі**. Старшынствавалі праф. Alain Bezançon і Ўладзімір Букоўскі.

Францускія сродкі масавай інфармацыі не абыйшлі бяз увагі гэтую падзею. Шматлікія перадачы былі зробленыя рознымі рэдакцыямі *Radio France Internationale, France Culture* і іншымі; перадачы па тэлеканалах *TV 5 Europe, France 3, Arte* (прыгатаваў перадачу з удзелам Вінцука Вячоркі). Вінцук Вячорка даў прэсавую канфэрэнцыю на якой прысутнічала каля чатырох дзесяткаў журналістаў. Газэты *La Croix* і *La Pensée Russe* апублікавалі інтэрв'ю зь ім. Маюць зьявіцца й іншыя публікацыі.

Дакладную справаздачу пра парыскія дэбаты ўзяўся апублікаваць часапіс *Commentaire*.

**Язэп Вішневіч**

### МАСАВАЯ МАГІЛА ПАД МЕНСКАМ

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» падала 19 чэрвеня паведамленьне агенцтва Асоцыэйтэд Прэс аб адкрыцьці пад Менскам масавае магілы, у якой можа знаходзіцца да 10000 забітых. На наступны дзень 20 чэрвеня газэта зьмясьціла здымак часткі магілы. Паводле словаў прадстаўніка беларускага міністэрства абароны, у магіле ляжаць **расстраляныя немцамі савецкія салдаты і цывільныя жыхары, у тым ліку жанчыны зь дзецьмі.**

### ДЭПУТАТ ПРЫМРОІЎ ЗМОВУ

Шэраг буйнейшых інфармацыйных агенцтваў паведамілі пра інтэрвію дэпутата Дзяржаўнай Думы Расеі і старшыні камісіі па бясьпецы Віктара Ільюхіна у газэце «Правда-5», у якім ён зрабіў сэнсацыйную заяву з абвінавачваньнямі ЦРУ (Central Intelligence Agency) у падрыхтоўцы падрыўных акцый супраць Беларусі ды іншых краінаў СНД з тэрыторыі Польшчы.

Група агентаў ЦРУ, паводле В. Ільюхіна, рыхтавалі з тэрыторыі Польшчы масавыя страйкі ў Беларусі ў жніўні, у часе якіх пара ведамых апазыцыянэраў была-б забітая ды абвінавачаны ў гэтых сьмерцях быў-бы Лукашэнка.

Паводле Ільюхіна, з выдаткаваных на змову грошай 254 тыс. даляраў ужо былі выплачаныя украінскім радыкалам з УНА-УНСО. Ён-жа паведаміў пра падрыхтоўку падрыўных акцыяў у Крыме.

Афіцыйныя прадстаўнікі Беларусі і заходніх краінаў абвергі інфармацыі й выказваньні расейскага дэпутата.

### РОСТ ЗАРОБКАВАЕ ПЛАТЫ

Паводле паведамленьня Беларускага Радыё 23 ліпеня, рэальная заробкавая плата ў Беларусі ўзрасла у ліпені ў параўнаньні з чэрвенем на 6% і склала 1 201000 бел. рублёў ($88). У чэрвені цэны на харчы ўзрасьлі на 2,7%, на нехарчовыя тавары на 1%, на паслугі на 2%, што й абумовіла рост рэальнай заробітнай платы ў ліпені. Аднак, намінальныя даходы ў першай палове 1996 г. ўзрасьлі толькі на 7% у параўнаньні з падобным пэрыядам мінулага года, такім чынам Нацыянальны Даход Беларусі ўзрос толькі ў 1,7 разоў. Норма безпрацоўя ў Беларусі знаходзіцца на ўзроўні 3,7%.

### ПАДЗЯКА

Рэдакцыя дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі: А. Маркевічу, Б. Кіту, К. Акулу, Ю. Кіпелю, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, Л. Яцкевіч, П. Гузу, К. Вераб'ю, М. Раецкаму, А. Кіпель.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

З глыбокім сумам паведамляем, што ў пятніцу 17 траўня 1996 г. на 72-ім годзе жыцьця, памёр Сьв. пам.

## АЛЯКСАНДАР ЗДАНКОВІЧ

Нарадзіўся 24 жніўня 1924 г. у вёсцы Касьцюкі на Шаркаўшчыне. Нябожчык астаўіў па сабе ўдаву Гэды з сынам Аляксандрам і дочкамі Крыстынай, Жанэтай і Марыянай і іхнімі сем'ямі.

Пахавальны абрад адбыўся ў сераду, 29 траўня 1996 г. а 10.00 гадзіне раніцай ў Капліцы на магілках Грыйнфорд Парк Сэмэтры. Пры магільнам разьвітаньні прысутнічала вялікая колькасьць сяброў, знаёмых і прыяцеляў.

Аляксандар быў актыўным у грамадзкай дзейнасьці беларусаў у Лёндане і ваколіцах. Ад 1972 году быў штогадова выбіраны на Агульных Зьездах ЗБВБ у сябры Галоўнай Управы. Мінулага 1995 году быў абраны на Старшыню Галоўнае Управы ЗБВБ. Супрацоўнічаў з газэтай «Беларус» пастаянна паведамляючы аб дзейнасьці беларусаў у Ангельшчыне.

Няхай будзе яму лёгкай свабодная Ангельская зямля!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

З глыбокімі спачуваньнямі сям'і.

**Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.**

## СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ШУСТ



Народжаны 20 кастрычніка 1921, памёр 18 ліпеня 1996.

Адыйшоў ад нас на вечны супачынак блізкі і дарагі сябра маей сям'і. Для маіх дзяцей ён быў дзядзя Коля а для мяне і Людмілы — заступіў нам роднага брата. Для беларускага грамадзтва цэнны патрыёт, нястомны грамадзкі дзеяч.

Гэта быў самародак: патрыёт, сябра ЗБК, радны БНР, ведамы беларускаму, ды ня толькі беларускаму грамадзтву, як мастак. Ягоныя вырабы із саломы былі высока ацэнены на розных выстаўках у Канадзе ды ЗША. Ягоная адданая праца для беларускіх дзяцей, ахвяраў Чарнобыльскай аварыі добра ведама тут у Лёндане ды на Бацькаўшчыне.

Беларуская грамадзтва выказвае свае спачуваньні ягонай жонцы Гэлене, дачцы Барбары, зяцю Алену і двум ягоным унучкам.

Сьпі пад курганам герояў ды заступіся перад Усемагутным за лёс нашай пакутнай Бацькаўшчыны.

**Б. РАГУЛЯ**

## АФІЦЫЙНАЯ ЗАЯВА КІЕЎСКАГА ПАТРЫЯРХАТУ

28 красавіка прэс-служба Украінскае Праваслаўнае Царквы Кіеўскага Патрыярхату распаўсюдзіла афіцыйную заяву наконт удзелу Патрыярхата РПЦ Аляксея II у цырымоніі падпісаньня Дамовы пра інтэграцыю паміж Расеяй і Беларусьсю.

У заяве гаворыцца: **«Падобныя дзеяньні Маскоўскага Патрыярха Аляксея II далёкія ад традыцый і звычаяў Усяленскай Праваслаўнай Царквы ды супярэчаць кананічнаму парадку ўзаемадачыненьняў дзяржавы і Царквы. У іх пераглядаецца болей «зла сьвецкае ўлады» чымся хрысьціянскае пакоры ды традыцыйнае хрысьціянскае балагачэсьця... Для Украінскай Дзяржавы ды ейнае Царквы гэткія дзеі маюць не апошняе значаньне. Удзел МП у аднаўленьні імпэрыі, на нашую думку, можа выклікаць непрадбачаныя палітычныя ды сацыяльна-эканамічныя наступствы на Украіне, бо значная частка праваслаўных парахвій у нашай дзяржаве знаходзіцца ў складзе Расейскае Праваслаўнае Царквы. Так званая Украінская Праваслаўная Царква Маскоўскага Патрыярхату пад кіраўніцтвам Мітрапаліта Ўладзімера Сабадана, у сілу свайго падпарадкаваньня РПЦ, уцягваецца ў небясьпечную палітычную гульню з аднаўленьнем новае імпэрыі».**

Украінская Праваслаўная Царква Кіеўскага Патрыярхату ў сваёй заяве асуджае масквафільскую арыентацыю ў дзяржаўнай рэлігійнай палітыцы, што, паводле заявы, можа у **«значнай ступені падарваць працэс дзяржаўнага будаўніцтва на Украіне».**

*(Паводля украінскага друку*

## «ПІСЬМЕНСТВА І ДРУК НА ВІЦЕБШЧЫНЕ»

**15-16 кастрычніка 1996 г.** у Віцебскім дзяржаўным унівэрсытэце одбыдзецца рэгіянальная краязнаўчая канферэнцыя **«Пісьменства і друк на Віцебшчыне: гісторыя і сучаснасць».**

## НОВАЯ КНІГА




Літаратурная апрацоўка й рэдагаваньне Лявона Юрэвіча.

Цана кнігі $15.00.

Как набыць кнігу зварачайцеся на адрасы:

Л. Юрэвіч
1673 W. 2nd Street
Brooklyn, NY 11223

Dr. B. Ragula
579 Willowdale Ave.
London, Ont. N5X 1J2
Canada

## ДА ЮБІЛЕЮ «НАШАЙ НІВЫ»

**5-6 лістапада 1996 г.** у Менску адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 90-годдзю «Нашай Нівы», дзейнасці Янкі Купалы, іншых змагароў за беларускую нацыянальную ідэю на старонках першай нацыянальнай газеты, яе ўздзеяньню на шырокія народныя масы.

## МІНІСТРЫ АДЫХОДЗЯЦЬ АД ПРЭЗЫДЭНТА

Чатыры высакапастаўленыя ўрадаўцы, адказныя за эканоміку, выйшлі з ураду пасьля крытыкі іх прэзыдэнтам Лукашэнкам за правалы ў эканоміцы. Леанід Сініцын, намесьнік прэем'ера, адказны за сувязі зь міжнароднымі фінансавымі ўстановамі, два іншыя віцэ-прем'еры, Васіль Даўгалёў і Сяргей Лінг, а таксама міністр эканомікі Георгі Бадзей падалі ў адстаўку пасля бурнага паседжаньня Рады Бясьпекі. Лукашэнка, які кантралюе найбольш ход эканамічнага жыцьця рэспублікі, працягвае абвінавачваць за бязладзьдзе сваіх падначаленых. А прадказваньням на сёлета «гарачае восені» забег цяпер наперад, пусціўшы (праз маскоўскага камуніста, дэпутата Дзярждумы В. Ілюхіна) у ход вэрсію аб быццам-бы рыхтаваных амэрыканскай разьведкай (ЦРУ) дэманстрацыяў у Беларусі з мэтай «скінуць Лукашэнку з пасады».

## НОВЫЯ ПРЫЗНАЧЭНЬНІ

Прэзыдэнт А. Лукашэнка выдаў пастанову аб прызначэньні Аляксандра Сазонава Міністрам эканомікі і інвэстыцыяй. Паводле паведамленьняў Беларускага Радыё 25 ліпеня, кіраўніком чыгункі быў прызначаны Яўген Валодзька, які раней займаў пасаду намесьніка Міністра транспарту і зносінаў. Аляксандр Мінін прызначаны намесьнікам Міністра транспарту і зносінаў і кіраўніком дарожнага будаўніцтва. Зінові Прыгодзіч прызначаны першым намесьнікам Дзяржаўнага Камітэту па Справах Друку.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

| | |
|---|---|
| Б. Кіт (замест кветак на магілу Др. М. Шчорса) | ам. дал. 100 |
| Ю. Найдзюк | 30 |
| П. Брушкевіч | 50 |
| Б. Андрусышын | 50 |
| Ю. Андрусышын | 50 |
| В. і Т. Махнач | 500 |
| Г. Сенькевіч | 50 |
| В. Заморская | 100 |
| Л. і Э. Літаровіч | 100 |
| Б. і Т. Русак | 30 |
| В. Баран | 5 |
| Т. Бэрд | 40 |
| М. Калядка | 30 |
| А. Акуліч | 50 |
| Н. і І. Александар | 30 |
| Л. Трусевіч | 100 |
| Л. Бакуновіч | 60 |

**Фінансавая справаздача газэты «Беларус» за чэрвень 1996 ад Трыгубовіча Сяргея**

| | |
|---|---|
| Літаровіч, Л. | ам. дал. 100 |
| Хрэноўскі, А. | 50 |
| Дубяга, В. | 40 |
| Русак, Б. | 30 |

**Прыслалі непасрэдна ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| М. Ціпко | 30 дал. |
| П. Грыгальчык | 10 фунт. |
| М. Еськевіч | 5 фунт. |
| П. Барысік | 5,700 б. франк. |

**На дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Сурвілла, Я. і І. | ам. дал. 1000 |
| Лук'янчык, А. і сям'я | 1000 |
| Кіпель, В. і З. | 1000 |
| Рамана, А. і Ф. | 1000 |
| Запруднік, Я. і Н. | 1000 |
| Рада БНР (праз скарбніка В. Кажана) | 1000 |

**На выданьне кнігі Ю. Віцьбіча: Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі ахвяравалі і падпісаліся:**

| | |
|---|---|
| Лашук, А. | анг. фунт. 10 |
| Буткевіч, С. | 10 |
| Баяроўскі, М. | 15 |
| Разанец, А. | 10 |
| Карніловіч, У. | 15 |
| Дамінік, Т. | 10 |
| Краеўскі, М. | 10 |
| Сенька, М. | 20 |
| Калбаса, Я. | 5 |
| Віценчык, М. | 20 |
| Станкевіч, Р. | ам. дал. 75 |
| Сагановіч, М. | 30 |
| Акула, К. (другі раз) | 100 |
| Занкавіч, М. (з Францыі) | 100 |
| Мыцько, В. | 50 |
| Г. Шэйпак | 37 |

*Выпраўленьне памылкі: у папярэднім нумары «Беларуса» у сьпісе ахвярадаўцаў трэба чытаць:* ***А. Дубяга, $50.00.***